ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 102 (1636) | Аўторак, 26 снежня 1961 года | Цана 4 кап.

## III ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ СССР

*Абмеркаванню задач, якія паставіў перад савецкімі пісьменнікамі гістарычны XXII з'езд КПСС, быў прысвечаны III пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў 22—23 снежня ў Маскве.*

*Пленум адкрыў уступнай прамовай першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Канстанцін Федзін.*

*З дакладам «XXII з'езд КПСС і задачы савецкай літаратуры» выступіў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Георгій Маркаў.*

*У спрэчках па дакладу прынялі ўдзел Л. Собалеў, Л. Дзмітэрка, І. Шамякін, Н. Зар'ян, В. А. Смірноў, Н. Мардзінаў, Л. Якіменка, А. Нікулькоў, С. Арсанаў, К. Варанкоў, Мехці Гусейн, А. Салынскі, Каміль Яшэн, В. Ярмілаў, С. Міхалкоў, В. Касалапаў, В. Озераў, І. Анісімаў, Е. Мальцаў, Г. Мядынскі, Б. Сучкоў, Анці Цімонен.*

*З заключным словам выступіў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Г. Маркаў.*

*Удзельнікі пленума аднадушна прынялі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС. У ім гаворыцца: «Рашэнні XXII з'езда і Праграма КПСС узброілі нас усім для таго, каб ажыццявіць задачу, пастаўленую партыяй, — стварыць вялікае мастацтва камунізма, вывесці савецкую літаратуру не толькі па ідэйнасці і багаццю зместу, але і па мастацкай дасканаласці на першае месца ў сусветным мастацкім развіцці».*

# З ПАЧУЦЦЁМ АДКАЗНАСЦІ ПЕРАД НАРОДАМ

**Іван ШАМЯКІН**

ГРАНДЫЁЗНЫ гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС, велізарна іх значэнне для лёсу народа, для росту яго духоўных сіл, духоўнай магутнасці — для развіцця савецкай літаратуры і мастацтва.

І нам сёння абсалютна ясна адно: пасля XXII з'езда пачынаецца новы перыяд у жыцці нашай літаратуры, які ў многім адрозніваецца не толькі ад 30-х і 40-х гадоў, ад пасляваенных год да XX з'езда, але і ад перыяду паміж XX і XXII з'ездамі. Мы ўсе далёкія ад думкі, каб штосьці закрэсліваць або чарніць з таго, што было зроблена ў папярэднія гады. Не, зроблена многа добрага, вырасла вялікая літаратура — адзіная, інтэрнацыянальная — гераічных савецкіх народаў. Але ў мяне такое ўражанне, што ў мінулым, хоць у кожнай з братніх літаратур былі вялікія ўдачы, у нас ішлі, галоўным чынам, колькасныя накапленні. А вось цяпер надышоў той перыяд, калі, гаворачы мовою філасофіі, колькасныя накапленні пяройдуць у новую якасць. Вядома, у літаратуры гэты скачок не можа адбыцца за час аднаго пісьменніцкага пленума, сходу, за месяц і нават за адзін год. Павінны з'явіцца новыя творы, у якіх адлюстраваліся б рашэнні XXII з'езда і справы народа, які выконвае гэтыя рашэнні. Не можа быць сумнення, што поўнае асуджэнне культу асобы, пераадоленне яго вынікаў ва ўсіх сферах жыцця, велічная праграма пабудовы камунізма і барацьбы за ўмацаванне міру народзяць зусім якасна новыя адносіны паміж людзьмі, а, значыць, павінна быць якасна новае адлюстраванне гэтых узаемаадносін у творах літаратуры і мастацтва. З'явяцца новыя тэмы, сюжэты, героі.

Якія яны будуць? У чым іх адрозненне? Каб загадзя гэта ведаць — што вельмі важна для кожнага мастака, бо толькі адчуваючы напрамак руху, можна адкрываць новае! — мы павінны сёння больш уважліва, чым рабілі гэта раней, прыглядацца да герояў нашых будучых кніг, да іх матэрыяльнага і духоўнага жыцця.

У многім змянілася гэтае жыццё, а разам з ім і людзі. Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў апошні час, асабліва пасля XXII з'езда, усе мы сталі разумнейшыя, смялейшыя, больш пільныя, больш дальнавідныя, прыгажэйшыя. Так, душэўна прыгажэйшыя. Сёння ўсюды, у горадзе і вёсцы, можна заўважыць, як людзі імкнуцца выконваць прынцыпы маральнага кодэкса будаўніка камунізма, маральна ўдасканальвацца. А якой рашучай і бязлітаснай стала барацьба грамадства з рознымі праявамі перажыткаў мінулага — з чэрствасцю, бяздушнасцю, бюракратызмам, дармаедствам, сквапнасцю, лянотаю і інш.

У нас яшчэ нямала бяздушных і чэрствых людзей, ёсць факты нізасці і подласці. Але ў наш час цяжка ўжо ўявіць калектыў, які мог бы застацца раўнадушным да лёсу свайго члена, свайго таварыша, як гэта здаралася раней. Адзін з важнейшых маральных прынцыпаў камуністычнага грамадства становіцца нормай паводзін калектыву і кожнага грамадзяніна.

Давер'е калектыву да свайго члена і чалавека да свайго калектыву — гэта, магчыма, адзін з важнейшых вынікаў барацьбы партыі супраць вынікаў культу асобы.

Да гонару нашай літаратуры— яна заўсёды прапагандавала гэта высокае давер'е, гэтую ленінскую павагу да чалавека. Савецкія пісьменнікі рабілі гэта перакона на і шчыра нават у тыя цяжкія беззваротныя часы.

У будучых нашых кнігах, спектаклях, фільмах галоўным героем павінен стаць наш сучаснік, будаўнік камунізма. Гэта ісціна абсалютная і бясспрэчная. Але кожная тэма патрабуе накаплення пэўнага вопыту. Нічога не ствараецца без вопыту. Вядома, на найбольш правільным шляху ў распрацоўцы пластоў сучаснасці мы знаходзіліся пасля XX з'езда партыі. І зроблена за гэтыя гады ў галіне прозы, паэзіі, драматургіі нямала. Напісана многа розных твораў — добрых, пасрэдных і няўдалых. Само сабой зразумела, што ўсе гэтыя творы патрабавалі самага стараннага і аб'ектыўнага крытычнага аналізу. Але я не зраблю адкрыцця, калі скажу, што іменна ў гэтыя гады наша крытыка, як ніколі, была абыякавая і пасіўная да твораў на тэмы сучаснасці. Я маю на ўвазе крытыку беларускую і рускую — ва ўсесаюзных газетах і часопісах. Напэўна такое ж становішча і ў многіх іншых братніх літаратурах. А без дапамогі разумных па-марксісцка-ленінску адукаваных крытыкаў-тэарэтыкаў, якія расцілі б літаратуру, як дбайны садоўнік свой сад, нам, практыкам, часам нялёгка разабрацца ва ўсіх складаных праблемах свайго жанру і ўсяго літаратурнага працэсу.

У апошнія гады беларускія крытыкі і літаратуразнаўцы прарабілі адну карысную работу: аднавілі імёны пісьменнікаў, якія нявінна пацярпелі, запоўнілі выкрэсліванні ў гісторыі літаратуры. Гэта вельмі важна і патрэбна. Але нельга, каб гэтая работа рабілася на шкоду распрацоўкі надзённых праблем развіцця літаратуры. А такі адыход крытыкаў у 20—30 гады, на жаль, наглядаецца, і не толькі ў беларускай літаратуры.

І ці не слабасцю крытычнай думкі, халодным стаўленнем крытыкаў да твораў аб сучаснасці тлумачацца некаторыя нечаканыя павароты да тых ці іншых тэм?

Гады пасля XX з'езда ў беларускай літаратуры характарызуюцца актыўнымі творчымі пошукамі новых тэм, вобразаў, новых форм. Нельга не адзначыць, што пошукі гэтыя ішлі ў адным, магістральным, напрамку — у плане асваення лепшых традыцый класічнай і савецкай літаратуры. У нас менш за ўсё было зрываў і заскокаў і амаль не аддавалася даніна розным модным плыням, якія яўна прыплылі з захаду. Герой — наш сучаснік — займаў цэнтральнае месца ў творах усіх жанраў. Вядома, у авангардзе ішла паэзія. Але і проза радавала сваім актыўным умяшаннем у жыццё. Іменна тады, гады чатыры назад, з'явіўся рад буйных твораў аб сучаснасці, якія атрымалі ўсесаюзнае прызнанне. Гэта раманы і аповесці П. Броўкі, Т. Хадкевіча, Я. Брыля, Ул. Карпава, А. Кулакоўскага, Ул. Дадзіёмава і інш. Раман у беларускай літаратуры атрымаў найбольшае развіццё ў пасляваенны час. Іменна дзякуючы раману, наша літаратура выйшла да ўсесаюзнага чытача. І, вядома, паварот раманістаў да тэм сучаснасці быў вельмі радасная з'явай.

Але цяпер заўважаецца нешта, што сапраўды цяжка растлумачыць.

Паэзія і драматургія і сёння плённа ўзнімаюць і распрацоўваюць найбагацейшую цаліну сучаснасці і дамагліся добрага ўражаю — бясспрэчных удач. Аб гэтым сведчаць новыя паэтычныя зборнікі П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, М. Калачынскага, К. Кірэенкі, новыя спектаклі па п'есах А. Макаёнка, І. Козела, П. Васілеўскага, якія палюбіў глядач.

А вось проза ў апошнія два гады амаль уся адышла ў мінулае. Нават проза малых форм — апавяданне. У 1961 г. нашы часопісы не апублікавалі ніводнага значнага празаічнага твора, прысвечанага жыццю і працы нашых сучаснікаў. Пішуцца і друкуюцца раманы аб жыцці беларускага сялянства ў канцы мінулага стагоддзя, аб рэвалюцыі 1905 г., грамадзянскай вайне, аб першых гадах Савецкай улады і зноў многа аб Айчыннай вайне Сярод гэтых раманаў ёсць творы сапраўды таленавітыя, як, напрыклад, раман І. Мележа «Людзі на балоце».

Мележ працуе над трылогіяй і таму апраўдана, што першы раман ён прысвяціў жыццю палескага сялянства ў 20-я гады.

Кожнага паасобку пісьменніка мы не можам папракнуць за выбар тэмы. Папракнуць можна толькі за слабую рэалізацыю любой тэмы. Але калі ў наш імклівы і здзіўляючы па гераізму народа час у тым ці іншым жанры з'яўляецца такі агульны перакос у бок мінулага, гісторыі, гэта не можа не трывожыць. Выпадкова гэта ці ёсць якіясьці прычыны? Ці ёсць падобныя з'явы ў іншых братніх літаратурах? Ці не тлумачыцца гэта дзіўнай пазіцыяй нашай крытыкі, якая і па сённяшні дзень сустракае творы аб сучаснасці часта пагардлівым маўчаннем?

Калі я задаваў пытанне: ці ёсць падобныя з'явы ў іншых братніх літаратурах? — я рабіў гэта не з марнай мімалётнай цікавасці. Мне сапраўды заўсёды хочацца ведаць пра ўсе працэсы, якія адбываюцца сёння ў братніх літаратурах. Але калі пра ўкраінскую літаратуру я магу даведацца з першакрыніц, дык прачытаць грузінскія ці латышскія часопісы і газеты я, на жаль, не магу. І тады я звяртаюся да «Дружбы народаў», да «Литературной газеты», да іншых органаў Саюза пісьменнікаў СССР. Але — дарэмна! — рэдка, вельмі рэдка можна знайсці ў гэтых цэнтральных, усесаюзных, агульналітаратурных выданнях грунтоўны разумны артыкул аб становішчы ў той ці іншай нацыянальнай літаратуры. Мала выдае нацыянальных крытычных і літаратуразнаўчых работ і наша выдавецтва «Советский писатель». Пра гэта гаварылася і на II і на III з'ездах пісьменнікаў, на многіх нашых пленумах. Аднак зрухі нязначныя і да гэтага часу.

А ў святле палажэнняў Праграмы КПСС пытанні ідэйнага адзінства, збліжэння нацыянальных літаратур, іх узаемаўзбагачэння павінны ставіцца і распрацоўвацца з усёй вастрынёй і сур'ёзнасцю.

У Праграме КПСС запісана:

«Надаючы рашаючае значэнне развіццю сацыялістычнага зместу культур народаў СССР, партыя будзе садзейнічаць іх далейшаму ўзаемаўзбагачэнню і збліжэнню, умацаванню іх інтэрнацыянальнай асновы і тым самым фарміраванню будучай адзінай агульначалавечай культуры камуністычнага грамадства. Падтрымліваючы прагрэсіўныя традыцыі кожнага народа, робячы іх здабыткам усіх савецкіх людзей, партыя будзе ўсямерна развіваць новыя, адзіныя для ўсіх нацый рэвалюцыйныя традыцыі будаўнікоў камунізма...»

Іменна ў літаратуры і мастацтве лепш за ўсё знаходзяць сваё адлюстраванне народныя традыцыі, старыя і новыя. І таму лепшыя дасягненні нацыянальных літаратур павінны як мага хутчэй ставіцца здабыткам усіх савецкіх людзей. У гэтым вялікая роля Саюза пісьменнікаў СССР, яго друкаваных рускіх органаў, бо руская мова з'яўляецца сродкам сувязі паміж усімі савецкімі народамі. Ненармальна, калі некаторыя добрыя кнігі нацыянальных пісьменнікаў перакладаюцца і выдаюцца толькі праз тры-пяць год пасля выхаду іх у арыгінале.

Растуць і шырацца сувязі паміж нацыянальнымі літаратурамі, няўхільна ідзе працэс іх збліжэння і ўзаемаўзбагачэння. Але і гэтыя працэсы ў нас дрэнна абагульняюцца і вывучаюцца — і на месцах, у рэспубліках, і ў цэнтральных органах. Іншы раз больш увагі аддаецца форме чым зместу з'явы.

У апошнія гады па ініцыятыве раду рэспубліканскіх саюзаў пісьменнікаў пачалі праводзіцца цікавыя мерапрыемствы — Тыдні і Дэкады братніх літаратур. Але часта і ў правядзенні гэтых сустрэч і галоўным чынам у асвятленні іх у друку больш аддавалася даніна знешняму боку справы, форме. Ні для кога не сакрэт: мнагавата ў нас у гэтых тыднях параднасці і малавата дзелавога абмеркавання праблем і твораў тых літаратур, прадстаўнікі якіх з добрымі намерамі і шчырай радасцю сустракаліся. Прымаем мы адзін аднаго часта як заморскіх гасцей. А мы ж члены адной вялікай і дружнай сям'і, браты, і робім адну агульную вялікую справу. І апроч святкавання, у нас павінны пры сустрэчах адбывацца сур'ёзныя размовы пра самае галоўнае і істотнае ў нашай вялікай гаспадарцы, як гэта бывае заўсёды, калі з'язджаюцца браты. Пачаўшы добрую справу, мы іншы раз спыняемся на паўдарозе. У час Тыдняў беларускай літаратуры на Украіне, Латвіі і Літве ў СП гэтых рэспублік адбыліся вельмі добрыя размовы, абмен думкамі; украінскімі, літоўскімі, латышскімі і беларускімі пісьменнікамі было выказана шмат цікавых думак і прапаноў, накіраваных на далейшае пашырэнне нашых літаратурных сувязей. Але, на жаль, далёка не ўсё з гэтага было ажыццёўлена. Як кажуць, «заела цякучка». А гэтай цякучкі, мітусні ў нас яшчэ многа. І тады за дробязямі мы ўпускаем вялікія і важныя пытанні.

Магчыма, гэта мая суб'ектыўная думка, але ў мяне асабіста такое ўражанне, што сакратарыят СП СССР у апошні час звузіў сваю ролю ў арганізацыі літаратурнага працэсу ў нацыянальных рэспубліках. Нам не трэба апекі. Мы выраслі з трусоў, як гаварыў Мікіта Сяргеевіч, і надзелі штаны. Але абагульненне вопыту работы па ўсіх праблемах развіцця нацыянальных літаратур, публікацыя гэтых абагуленых тэарэтычных вывадаў, лепшая, чым ёсць, прапаганда ўсяго лепшага, што створана і ствараецца, магла б аказаць усім нам неацэнную дапамогу.

Велічныя задачы паставіў перад намі XXII з'езд, Праграма КПСС. Каб выканаць гэтыя задачы, апраўдаць высокае і ганаровае званне памочнікаў партыі, мы павінны працаваць па-новаму, па-камуністычнаму і за рабочым сталом, і ў нашых друкаваных выданнях, і ва ўсіх іншых рабочых органах Саюза пісьменнікаў. А самае галоўнае — мы павінны глыбей вывучаць жыццё народа, пастаянна быць з людзьмі, каб не абмінуць тыя найцікавейшыя працэсы, якія цяпер адбываюцца ва ўсіх галінах жыцця.

Беларускія пісьменнікі працуюць сёння з пачуццём асаблівай адказнасці перад партыяй, перад сваімі чытачамі. І мы ўпэўнены, што ў хуткім часе ў нас з'явяцца творы ва ўсіх жанрах, якія праўдзіва і ярка адлюструюць гераічную працу будаўнікоў камунізма.

Выступленне на III пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.



Бярозаўская ДРЭС — напярэдадні пуску. Кіпучым, напружаным жыццём жывуць яе будаўнікі. Заканчваюцца апошнія мантажныя работы. Радасна на душы ў кіраўніка электрамантажнікаў, старшага прараба Якава Андрэевіча Васільева.

Фота Л. Папковіча.

## УСЕСАЮЗНАЯ НАРАДА па пытаннях ідэалагічнай работы

**Учора ў Маскве, у Вялікім Крамлёўскім палацы, адкрылася Усесаюзная нарада па пытаннях ідэалагічнай работы.**

**Нараду кароткім уступным словам адкрыў Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС таварыш М. С. Хрушчоў.**

**З дакладам — «XXII з'езд КПСС і задачы ідэалагічнай работы» — выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі тав. Л. Ф. Ільічоў.**

## ПЕРАКЛАДАЦЬ ЛЕПШАЕ І ВЫДАТНА

З году ў год павялічваецца выпуск перакладаў мастацкай літаратуры ў савецкай краіне. Камісія савета па мастацкаму перакладу пры праўленні СП СССР, якая заклікана кіраваць гэтай справай, у мэтах павышэння якасці мастацкага перакладу, упарадкавання справы выдання перакладных кніг, развіцця грамадскіх форм рэдакцыйнай работы, кантролю грамадскасці за работай выдавецтваў падрыхтавала прапановы да праекта «Палажэнне аб выданні мастацкіх перакладаў у СССР».

Чарговае пашыранае пасяджэнне бюро секцыі перакладаў з удзелам актыву перакладчыкаў Саюза пісьменнікаў і работнікаў Дзяржвыдавецтва было прысвечана абмеркаванню гэтага Палажэння.

Прысутныя адзначылі важнасць гэтага дакумента, унеслі свае прапановы і ўдакладненні.

У абмеркаванні Палажэння аб мастацкіх перакладах прынялі ўдзел Н. Кіслік, В. Нікіфаровіч, М. Татур, Л. Салавей, Я. Казека, Я. Семяжон, В. Крайко, В. Сёмуха.

Паляпшэнне арганізацыі выдання і рэдагавання перакладаў мастацкай літаратуры — надзённая справа выдавецтваў і грамадскасці.

Героі нашых дзён

# ПАРТЫЙНЫ САКРАТАР

У апошнія месяцы Генадзь Матросаў хадзіў сумны і пануры. Усмешка знікла з яго твару, і ўвесь ён неяк прыціх, насцярожыўся. Нельга было пазнаць у ім ранейшага Гену, заўсёды рухавага і непаседлівага.

Дык чаго ж засумаваў ты, Гена?

Многія члены брыгады шукалі адказ на гэтае пытанне і не маглі знайсці. Розныя былі здагадкі, але ніхто не ведаў, чаму адбыліся такія змены з іх брыгадзірам.

Між тым у свядомасці Матросава ішла напружаная барацьба. Раптам дзесьці ў душы з'явіўся яшчэ адзін Матросаў, і гэты, другі, увесь час, нават сярод ночы, не даваў спакою... Ён, гэты другі Матросаў, клікаў угаворваў, пераконваў:

«Ідзі, Гена, падзяліся сваімі думкамі, сваімі сумненнямі з людзьмі, і яны зразумеюць цябе. Ідзі, не пакутуй адзін... Чым раней ты гэта зробіш, тым лепш. Інакш пашкадуеш...»

Але Гена не ішоў, ён баяўся, а, галоўнае, саромеўся.

Так, яго судзілі, а ён утаіў гэта ад сяброў, таварышаў. Яны не ведаюць усяго. Яны вераць яму, паважаюць яго.

А на самой справе ён, Матросаў, не заслугоўвае гэтага. І цяпер голас сумлення загаварыў у ім асабліва настойліва. Дык што ж рабіць, дзе выхад? Расказаць усю праўду? Але тады скажуць:

«Што ж ты, даражэнькі, да гэтага часу маўчаў? Чаму ўтойваў? Хацеў у начальнікі пралезці? Сорамна, ой, як сорамна!»

Нарэшце, Матросаў не вытрываў пакут таго, другога Матросава, і больш маўчаць не мог.

Ёсць такі чалавек на будоўлі, і толькі з ім адным вырашыў падзяліцца Генадзь Матросаў. Гэта—Мікалай Міхайлавіч Чэчат, сакратар партыйнага камітэта «Нафтабуда».

Выпадак натрапіўся нечакана. Як звычайна, Чэчат прыйшоў у брыгаду Матросава ў сераду, раніцай, перад пачаткам змены. Тут ён правёў амаль цэлы дзень. А ўвечары, калі сакратар парткома збіраўся ісці дамоў, Генадзь запытаўся ў яго:

— Можна вас праводзіць, Мікалай Міхайлавіч?

— Вельмі буду задаволены быць у кампаніі такога сімпатычнага маладога чалавека,—пажартаваў той. А затым, ужо больш строга дадаў:

— Тым больш, і я хацеў з табой пасакрэтнічаць сам-насам. Нешта мне твой настрой не падабаецца, сокал.

Спачатку ішлі моўчкі, кожны думаў пра сваё. Затым маўчанне парушыў Мікалай Міхайлавіч:

— А чаму, Гена, ты не рыхтуешся ў партыю ўступіць? Хлопец ты добры, брыгадай кіруеш, як мае быць.

І ўжо больш прыўзнята:

— Ды што гэта я цябе расхвальваю! Ты ж сам лепш ведаеш, які ты ёсць. І, увогуле, кожны чалавек пра сябе больш ведае...

— Так, гэта праўда, Мікалай Міхайлавіч...—нявесела пачаў Матросаў. І ў сваю чаргу запытаўся:

— Вось вы мяне ў партыю рэкамендуеце, а ці ведаеце добра, што я за чалавек?

Запытаўся і ў чаканні адказу перажыў страшэнна пакутлівае імгненне.

— Добры чалавек, вось хто ты, Гена!

— Памыляецеся, Мікалай Міхайлавіч,—заўважыў Матросаў. І ўжо з сілай выціснуў словы:—Дрэнны чалавек—вось хто я...

Абодва раптам спыніліся. Чэчат здзіўлена і вельмі пільна паглядзеў у вочы Матросаву і сказаў:

— Не веру. Не, не веру...

І затым пачуў невясёлы расказ Матросава.

...Нарадзіўся ён у 1932 годзе. Бацьку і маці не памятае, таму што яны пакінулі яго, калі Гену не было і года ад нараджэння. Маці выйшла замуж за другога, а бацька ўзяў сабе новую жонку. І маці, і бацька невядома куды паўцякалі ад маленькага Гены, пакінуўшы яго. Добра, што ў бабулі і дзеда аказаліся добрыя сэрцы і яны ўзялі хлопчыка да сябе. Але з кожным годам старыя адчувалі сябе ўсё горш і горш, і Гена, калі крыху падрос, пачаў думаць пра свой хлеб. Ён паступіў у школу ФЗН, скончыў яе і пачаў працаваць на будоўлях Мінска. Тады яму было семнаццаць год. Жыў у інтэрнаце. Вядома, там у яго былі і сябры, але такія, што любілі і пагуляць, і выпіць. А дзе выпіўка, там часта і непрыемнасці. Аднойчы (Гена цяпер ужо не памятае, з якой прычыны) сябры сабраліся і выпілі. Выпілі і пабіліся. Гена ў бойцы ўдзелу не прымаў (ён увогуле па характару спакойны), але ж быў у гэтай кампаніі і разам з усімі трапіў на лаву падсудных. Разам з усімі давялося дзяліць і грахі. Пакуль у другі раз разглядалася справа, Гена адседзеў каля года. Пасля яго адпусцілі. У Мінск ён больш не паехаў, а прыехаў да бабулі, у Шумілінскі раён. Там уладкаваўся ў МТС і працаваў.

— Ну, а цяпер вось тут працую,—закончыў Матросаў свой расказ.—А як працую—самі ведаеце.

Пакуль Матросаў расказваў, Чэчат не вымавіў ні слова і слухаў моўчкі, уважліва, зрэдку кідаючы позірк на субяседніка. Чэчат бачыў, як перажываў і пакутаваў Матросаў і адчуваў, што ў гэтым расказе няма фальшу. Гэта была як бы споведзь перад чалавекам, якому ён верыў.

— Гэта добра, Гена, што ты расказаў праўду,—сказаў Чэчат.— Толькі чаму не зрабіў гэтага раней?

— Саромеўся ды і людзей тады ведаў дрэнна. Каму можна было адкрыць душу?—адказаў Матросаў.

Чэчат разумеў, што ад таго, як ён ацэніць учынак Матросава і наогул яго мінулае, залежыць, магчыма, лёс гэтага простага рабочага хлопца. Значыць, трэба было падабраць нейкія пераканальныя і моцныя словы, якія б не зняважылі чалавека, а, наадварот, надалі яму сілы, узнялі настрой.

— Ведаеш, Гена, дарагі мой,— пачаў Мікалай Міхайлавіч.—Жыццё пражыць—не поле перайсці. Памылкі і ў моцных людзей, нават у герояў бываюць. Вядома, памылка памылцы не роўная. Ты памыліўся, але памылку выправіў, а галоўнае—застаўся чалавекам, нашым, сапраўдным савецкім чалавекам. Пройдуць гады, дзесяцігоддзі, прыедуць сюды, на бераг Заходняй Дзвіны нашы дзеці і ўнукі, запытаюцца, убачыўшы гэту аграмадзіну — Полацкі нафтаперапрацоўчы завод: «Скажыце, калі ласка, хто будаваў гэтае дзіва?» І пачуюць:

«Генадзь Матросаў, сын рабочага класа!»

Абодва, задаволеныя, засмяяліся.

А праз некалькі месяцаў Генадзя Матросава на пасяджэнні парткома прынялі кандыдатам у члены Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Працуе цяпер Генадзь яшчэ з большым запалам. Яго брыгада спаборнічае за званне калектыву камуністычнай працы. Ажаніўся. Атрымаў кватэру. І яшчэ дэталь: уся брыгада Матросава—дружыннікі.

У партыйнага сакратара пасада ўсеабдымная. Неабмежаванае кола пытанняў, якімі ён павінен займацца, асабліва на такой вялікай будоўлі, як Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, дзе працуюць тысячы і тысячы людзей. І калі б хапацца за вырашэнне ўсіх гэтых пытанняў, то любому партыйнаму сакратару не хапіла б на гэта і жыцця. У тым і майстэрства партыйнага кіраўніка, каб не распыліцца ў тысячах вялікіх і маленькіх спраў, знайсці галоўнае звяно, ухапіўшыся за якое, можна было б выцягнуць усё, усё...

І гэта галоўнае — выхаванне людзей. Так вучыць Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, калі гаворыць: пытанне аб кадрах, іх правільнай расстаноўцы, выхаванні і ўмелым выкарыстанні—гэта галоўнае пытанне ва ўсёй нашай рабоце. Чэчат добра памятае гэтыя словы, і яны дапамагаюць яму ў рабоце.

Дык вось, каб дастойна выканаць адказнае і ганаровае заданне партыі—своечасова здаць у эксплуатацыю Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, трэба падабраць добрых людзей—будаўнікоў і перш за ўсё на рашаючыя ўчасткі. І трэба добра ведаць гэтых людзей. Іменна таму так рэдка можна застаць ва ўпраўленні трэста, у сваім кабінеце сакратара парткома Мікалая Міхайлавіча Чэчата. Ён заўсёды ў дарозе, крочыць пехатою з адной будаўнічай пляцоўкі на другую, з брыгады ў брыгаду, з участка на ўчастак. Пехатою, таму што так больш убачыш, больш пачуеш, а гэта вельмі важна для партыйнага сакратара.

І Чэчат сапраўды ведае многа.

Тут, на будоўлі ўспамінаюць такі выпадак.

Калі прыслалі новы экскаватар, пачалі думаць, каго прызначыць старшым машыністам. Дарэчы сказаць, на будоўлі не хапае землярыйных машын, і калі прыбывае новы экскаватар, то кожны раз гэта сапраўднае свята. Называлі многа кандыдатур, але самай прыдатнай аказалася тая, якую прапанаваў сакратар парткома. Гэта быў Анатоль Крэмень. Чэчат добра ведаў Анатоля і таму не сумняваўся ў ім, верыў, што ён апраўдае надзеі.

Так яно і было.

Цяпер экіпаж Крэменя—лепшы. Яго заслужана называюць «дазорным пярэдняга краю». Хлопцы там, як на падбор—дружныя, працавітыя. Працуюць і вучацца. Сам Крэмень ужо асвоіў чацвёртую прафесію — машыніста пад'ёмных кранаў. А, гледзячы на яго, і астатнія так жа робяць. Вялікім святам быў дзень, калі экіпажу прысвоілі званне «Экіпаж камуністычнай працы». Крэмень, уключыўшыся ў спаборніцтва за выкананне рашэнняў XXII з'езда КПСС, дабіваецца ўсё новых і новых поспехаў. Ён давёў цыкл аднаго абароту каўша да 15 секунд. Гэта вельмі высокая хуткасць. Хлопцы з экіпажа камуністычнай працы праславіліся яшчэ і тым, што сталі ініцыятарамі новага руху—вырашылі рамантаваць тэхніку сваімі сіламі і адмовіліся ад дапамогі брыгады слесараў. Яны самі рэгулярна праводзяць тэхнічны дагляд, уважліва сочаць за рэгуліроўкай і змазкай механізмаў і таму адмовіліся таксама ад паслуг дзяжурных слесараў. Акрамя таго, яны адмовіліся і ад учотчыка. Усё гэта сэканоміла дзяржаве многа сродкаў.

Партыйны камітэт і яго сакратар многа робяць для таго, каб абагуліць, пашырыць і ўкараніць вопыт перадавікоў. Асаблівую ўвагу надае партыйны камітэт папулярызацыі вопыту брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы. Кожны квартал партком разам з прафсаюзнай арганізацыяй і ўпраўленнем трэста праводзіць злёты брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы, на якія запрашаюцца ўсе будаўнікі. Цяпер на заводзе ёсць больш дзесятка брыгад камуністычнай працы. Шмат брыгад змагаецца за гэта ганаровае званне. Акрамя таго, многія будаўнікі спаборнічаюць за званне ўдарнікаў камуністычнай працы. Злёты заўсёды праходзяць цікава, з карысцю, яны садзейнічаюць павышэнню актыўнасці ўсяго калектыву, росту прадукцыйнасці працы.

У час сустрэч і гутарак Чэчата з людзьмі ўзнікае мноства вялікіх і маленькіх праблем, якія трэба неадкладна вырашаць.

Вось будаўнікі скардзяцца, што іх не зусім задавальняюць цяперашнія амбулаторыя і бальніца — цесна ды і медыцынскага абсталявання не хапае. Чэчат абавязан падумаць, як вырашыць гэтую праблему. Думае спачатку адзін, потым разам з астатнімі членамі партыйнага бюро, работнікамі ўпраўлення трэста, прафсаюзным камітэтам. Калектыўны розум знойдзе выйсце з любога становішча. І калі падумалі, прыкінулі, аказалася, што можна пабудаваць бальнічны гарадок. Такі гарадок цяпер будуецца. Сапраўдная здраўніца—цудоўныя бальнічныя карпусы, у сасновым лесе над ракой...

Зайшоў Мікалай Міхайлавіч Чэчат пагаварыць з моладдзю і таксама пачуў скаргі. Хлопцы патрабавалі, каб кіраўнікі трэста і прафсаюзная арганізацыя сур'ёзна, нарэшце, падумалі аб развіцці масавай фізкультуры і спорту.

Справядлівае патрабаванне. Сапраўды, тут парткамітэт аказаўся не на вышыні—забыў аб фізічным выхаванні моладзі, якая складае тут 99 працэнтаў усяго калектыву. Трэба выпраўляць справу. Прымаецца рашэнне аб стварэнні савета фізічнай культуры і спорту пры пабудкоме. Затым пры савеце з'явіліся розныя секцыі. Вылучылі трэнераў для работы на грамадскіх асновах. Цяпер на «Нафтабудзе» функцыяніруе баяздольны фізкультурны калектыў, у якім налічваецца некалькі соцень юнакоў і дзяўчат.

А вось і маленькія праблемы...

Моладзь любіць патанцаваць, павесяліцца. А месца для ўсіх, нават у клубе, не хапае. Просяць юнакі і дзяўчаты: дапамажыце, маўляў, Мікалай Міхайлавіч, «зялёны тэатр» пабудаваць.

Калі ласка. Чэчат дамаўляецца ў трэсце, пабудкоме, і работа закіпела. Моладзь прыняла самы актыўны ўдзел у будаўніцтве «зялёнага тэатра». Часу і сродкаў на гэта пайшло не многа, бо зрабілі усё вельмі проста: у лесе выбралі і добраўпарадкавалі пляцоўку, паставілі лаўкі, змайстравалі сцэну. У веснавы ды летні час лепшага тэатра і не трэба.

Штодзённа, штогадзінна сакратару парткома даводзіцца вырашаць розныя пытанні, часта непрадбачаныя, «не запланаваныя». Такое ўжо наша жыццё—яно імкліва ідзе наперад, абганяючы нават самыя смелыя і шырокія планы.

У такіх жа клопатах праводзяць час і астатнія члены партыйнага камітэта.

Многа спраў, вялікіх і маленькіх, у партыйнага сакратара вялікай будоўлі, ва ўсіх камуністаў «Нафтабуда» і тым больш цяпер, пасля XXII з'езда КПСС. Многае яны ўжо зрабілі, але многа яшчэ працы і наперадзе: трэба хутчэй завяршыць будаўніцтва першай чаргі нафтагіганта—ударнай будоўлі сямігодкі. Выкананню гэтай задачы камуністы аддаюць усе свае сілы, усю сваю энергію.

**В. ВІКТАРАЎ.**

## ВЫКОНВАЛІСЯ ЎПЕРШЫНЮ

**У мінулую суботу і нядзелю ў Мінску, у акруговым Доме афіцэраў, адбыліся два сімфанічныя канцэрты. Яны былі цікавыя тым, што творы, якія ўваходзілі ў канцэртную праграму, упершыню гучалі ў Мінску. Спачатку Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам дырыжора В. Дуброўскага выканаў Першую сімфонію маладога беларускага кампазітара Р. Бутвілоўскага. Гэты буйны твор аўтар прысвяціў нашым маладым сучаснікам.**

**У другім аддзяленні канцэрта мінскія аматары музыкі першы раз пачулі ў жывым гучанні «Патэтычную араторыю» Г. Свірыдава, за якую кампазітару была прысуджана Ленінская прэмія. Выканаўцы — Дзяржаўны акадэмічны рускі хор Саюза ССР (салісты С. Машкоў, В. Фамічэнка) і калектыў нашага сімфанічнага аркестра з вялікім поспехам, вельмі натхнёна і па-музычнаму выразна раскрылі змест вакальна-сімфанічнага твора на словы Ул. Маякоўскага.**

